Гродна
№9 (467),
23 красавіка 2017
www.slowo.grodnensis.by



Слова Жыцця
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



*"Прамаўляю да грэшнікаў праз згрызоты сумлення, праз няўдачы і цярпенні, праз буры і навальніцы, прамаўляю праз голас Касцёла, а алі яны адрынуць усе Мае ласкі, пачынаю злавацца на іх, пакідаючы іх у спакоі, і даю ім тое, чаго прагнуць".*
*(Дз. 1728)*

**КАСЦЁЛ ШМАТ ГАВОРЫЦЬ ПРА БОЖУЮ МІЛАСЭРНАСЦЬ, ЗАКЛІКАЕ ЧАЛАВЕКА ВЯРНУЦЦА ДА ЛЮБЯЧАГА АЙЦА. НЕАБХОДНАСЦЬ НАВЯРТАННЯ ЗДАЕЦЦА СПРАВАЙ ВІДАВОЧНАЙ, А САМ ПРАЦЭС НАВЯРТАННЯ – ПРОСТЫМ: ТРЭБА КІНУЦЦА Ў АБДЫМКІ АЙЦА, ЯК БЛУДНЫ СЫН, І ПРЫНЯЦЬ ЯГО ПРАБАЧЭННЕ. АЛЕ ГЭТЫ КРОК, ЯКІ НА ПЕРШЫ ПОГЛЯД УЯЎЛЯЕЦЦА ТАКІМ ЛАГІЧНЫМ І ЛЁГКІМ, НА ПРАКТЫЦЫ АКАЗВАЕЦЦА НЕВЕРАГОДНА СКЛАДАНЫМ. ЧАМУ?**

● працяг на с. 4

# Божая міласэрнасць і сумленне чалавека

## Каляндар падзей

***23 красавіка***
*Нядзеля Божай Міласэрнасці.*
***25 красавіка***
*Свята св. евангеліста Марка.*
***1 мая***
*Распачацце маёвага набажэнства.*
***3 мая***
*Дзень імянін кс. біскупа Аляксандра Кашкевіча.*
*Успамінаем у малітве шаноўнага імяніннніка.*
***7 мая***
*Дыяцэзіяльны дзень маці.*
*Молімся ў інтэнцыі жывых і памерлых мам.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Май***
*За дзяцей, якія прыступаюць да Першай св. Камуніі, і моладзь, што прымае сакрамант канфірмацыі, а таксама за іх сем'і.*
*Аб абароне маладога пакалення ад дэмаралізацыі.*
*Аб дары плённай перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай у дыяцэзіі і аб плённай падрыхтоўцы да дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам.*
*Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі.*
*Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск у чэрвені.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы.*
*Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім;*
*у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.;*
*у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*
*У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

**"Міласэрнасць – гэта інвестыцыя ў вечнае жыццё". Папа Францішак**




### НЯДЗЕЛЯ БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ

**Ян 20, 19–31**

Калі быў вечар таго першага дня тыдня, і дзверы дома, дзе збіраліся вучні, былі замкнёныя ад страху перад юдэямі, прыйшоў Езус і стаў пасярэдзіне, і сказаў ім: “Спакой вам!”. І, сказаўшы гэта, паказаў ім рукі і бок. Узрадаваліся вучні, убачыўшы Пана. Тады Езус зноў сказаў ім: “Спакой вам! Як паслаў Мяне Айцец, так і Я пасылаю вас”. І, сказаўшы гэта, дыхнуў, і кажа: “Прыміце Духа Святога. Каму адпусціце грахі, таму будуць адпушчаны; на кім пакінеце, на тым застануцца”. Тамаш, адзін з Дванаццаці, званы Блізня, не быў з імі, калі прыйшоў Езус. Іншыя вучні казалі Яму: “Мы бачылі Пана”. Але ён сказаў ім: “Калі не ўбачу на руках Яго ран ад цвікоў і не ўкладу пальца свайго ў раны ад цвікоў, і не ўкладу рукі сваёй у бок Яго, не паверу”.

І праз восем дзён зноў былі ў доме вучні Ягоныя і Тамаш з імі. Хоць дзверы былі замкнёныя, прыйшоў Езус, стаў пасярэдзіне і сказаў: “Спакой вам!”. Потым кажа Тамашу: “Дай сюды палец твой і паглядзі на рукі Мае; дай руку тваю і ўкладзі ў бок Мой; і не будзь няверуючым, але веруючым”. Тамаш, адказваючы, сказаў Яму: “Пан мой і Бог мой!”. Езус кажа яму: “Ты паверыў, Тамаш, таму што ўбачыў Мяне. Шчаслівыя тыя, хто не бачыў, а паверыў”.

### БЯЗМЕЖНАЯ МІЛАСЭРНАСЦЬ

Нядзеля Божай Міласэрнасці дапамагае яшчэ больш углыбіцца і зразумець значэнне таямніцы ўваскрасення нашага Пана і Збаўцы. Святочная атмасфера Вялікадня паступова рассейваецца, мы вяртаемся да штодзённых спраў і абавязкаў. Аднак з нашай свядомасці не можа знікнуць галоўная праўда, што асаблівым чынам праяўляецца ў гэты час: міласэрнасць Бога не ведае межаў.

Евангелле прыгадвае пра аб’яўленне Хрыста вучням і Яго наказ аб з’яднанні чалавека з Богам. Айцец Нябесны дарує нам правіны, таму што любіць і прагне, каб мы былі побач з Ім. Наказ, атрыманы Апосталамі, датычыцца ўсіх нас. Хрыстос пакутаваў на крыжы, памёр і ўваскрос, каб аб’явіць моц і веліч Божай міласэрнасці адносна кожнага чалавека, нават самага згубленага. Спазнаўшы яе, мы павінны сведчыць і абвяшчаць, што Божая міласэрнасць з’яўляецца адной з крыніц хрысціянскай радасці.

### III ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 24, 13–35**

Вось двое вучняў Езуса ішлі ў вёску, званую Эмаус, якая знаходзілася ў шасцідзесяці стадыях ад Ерусаліма. І размаўлялі паміж сабою пра ўсё тое, што адбылося. І калі яны размаўлялі і разважалі між сабою, сам Езус наблізіўся ды ішоў разам з імі. Але вочы іх былі стрыманыя, таму не пазналі Яго. І Ён сказаў ім: “Пра што гэта вы размаўляеце паміж сабою?”. І яны спыніліся, поўныя смутку. Адказваючы, адзін з іх, па імені Кляоп, сказаў Яму: “Ты, напэўна, адзіны, хто жыве ў Ерусаліме і не ведае, што ў гэтыя дні там сталася”. І спытаў у іх: “Што?”. [...] І наблізіліся яны да вёскі, куды ішлі, і Ён зрабіў выгляд, што хоча ісці далей. Але яны настойвалі, кажучы: “Застанься з намі, бо ўжо вечарэе, і дзень мінае”. І Ён увайшоў, каб застацца з імі. Калі сядзеў з імі за сталом, узяў хлеб, благаславіў яго, паламаў і даў ім. І тады адкрыліся іхнія вочы, і яны пазналі Яго. Але Ён стаўся нябачным для іх. І яны сказалі адзін аднаму: “Ці ж не палала ў нас сэрца нашае, калі Ён размаўляў з намі ў дарозе і тлумачыў нам Пісанне?”. І ў тую самую гадзіну яны ўсталі і вярнуліся ў Ерусалім, і знайшлі сабраных Адзінаццаць і тых, хто быў з імі, якія казалі ім: “Пан сапраўды ўваскрос і з’явіўся Сымону”. І яны расказалі пра тое, што здарылася ў дарозе, і як пазналі Яго ў ламанні хлеба.

### ІНШЫ СПАЖЫТАК

Гэты фрагмент Евангелля гаворыць аб тым, як вучні, што ішлі ў Эмаус, пазналі Пана ў ламанні хлеба, сімвалізуючага Эўхарыстыю. Здаецца, змест урыўка актуальны таксама і сёння. Нашае жыццё з’яўляецца дарогай. Каб падарожнічаць, чалавеку неабходна ежа для цела – хлеб. Аднак павінен быць таксама іншы спажытак – для духа.

Мы падобныя да вучняў па дарозе ў Эмаус. Момант ламання хлеба, а значыць удзел у Эўхарыстыі, дазваляе ўсвядоміць, якое месца Хрыстос займае ў жыцці кожнага з нас. Св. Імша з’яўляецца асаблівым момантам набліжэння да Збаўцы, пазнання Яго настолькі, наколькі гэта магчыма для нас у дадзеную хвіліну. Занядбанне Эўхарыстыі, у кожным значэнні гэтага слова, забірае здольнасць заўважаць прысутнасць Езуса ў сваім жыцці: мы не бачым Яго, не адчуваем, не распазнаём.

*Кс. Ян Раманоўскі*



**Слова рэдактара**

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Навучымся ж міласэрнасці

*Бог з самага пачатку гісторыі Аб’яўлення прадстаўляецца нам як міласэрны і літасцівы, цярплівы, багаты на любоў і вернасць (параўн.: Быц 34, 6). Ён любіць людзей усёй сваёй сутнасцю, безумоўна і абсалютна дарма. Любіць не таму, што мы заслужылі ім запаведзі, але таму, што з’яўляецца Айцом; не таму, што стараемся быць святымі, а таму, што Ён святы; не таму, што пазбягаем граху, а таму, што сам без граху.*

Распазнавальным знакам першых хрысціян была менавіта міласэрнасць – кіраванне ў жыцці любоўю, якая паходзіць ад Бога. Сёння яна перастае быць звычайнай штодзённай справай, хутчэй расцэньваецца як вялікі і гераічны ўчынак. Аднак міласэрнасць нельга абмяжоўваць да дабрачыннасці ці ўслужлівасці. Гэта нешта адназначна большае, што заключаецца ў сустрэчы з бядой канкрэтнага чалавека і аказанні яму рэальнай дапамогі. Дзяленне з патрабуючым братам, як напісаў у адным са сваіх пасланняў св. Павел, набліжае нас да сакраманту Любові.

Св. Тамаш Аквінскі гаварыў: “Міласэрнасць – такое адчуванне чужой бяды, што прымушае прыйсці на дапамогу так, быццам гэта мяне тая бяда напаткала”. Такім чынам, міласэрнасцю з’яўляецца не толькі падтрымка, аказаная галоднаму, бяздомнаму ці цяжка хвораму, але таксама падаванне рукі таму, каго прыгнятае самотнасць ці спаткала цяжкая несправядлівасць, хто адчаўся пасля смерці дзіцяці, засумняваўся, што жыццё мае сэнс, згубіўся духоўна або нарэшце ўсвядоміў, як моцна пакрыўдзіў бліжняга. Дапамога ў ратаванні сужэнства, якое распадаецца, у выхадзе з няволі залежнасці, у перамозе над страхам перад нараджэннем дзіцяці і жаданнем здзейсніць аборт ці над спакусай адпомсціць за ўчыненую крыўду – вось сапраўдная міласэрнасць.

Езус Хрыстус паказаў нам цудоўны яе прыклад. Жыццё Збаўцы было, перш за ўсё, вялікім служэннем іншым людзям. Угледзяючыся ў паставу Настаўніка, ва ўцелаўлёную Міласэрнасць, скіруйма да Яго просьбу: “Езу, ціхі і пакорны сэрцам, учыні сэрцы нашыя да Твайго падобнымі”. Хрыстос нястомна запрашае не толькі выцягваць далонь па Божую міласэрнасць, але таксама дзяліцца любоўю з іншым чалавекам. Такім чынам мы станем сапраўднымі сведкамі Божай міласэрнасці.

**Дарагія Чытачы!**

Няхай Нядзеля Божай Міласэрнасці прыпомніць нам, каб былі міласэрнымі адзін да аднаго, як міласэрны наш Айцец (параўн.: Лк 6, 26). Давайце прабачаць адзін аднаму, бо Езус нам прабачыў. Выслухоўваць просьбы бліжніх, таму што Хрыстос пачуў нашы маленні. Падаваць руку патрабуючым, паколькі Збаўца першым працягнуў нам далонь міласэрнасці. Адгукацца на духоўную і фізічную бяду іншых людзей, калі сам Бог схіліўся над нашай убогасцю. Навучымся ж адказваць любоўю і будзьма міласэрнымі.




# Фаціма і Божая міласэрнасць

***Пасланне аб Божай міласэрнасці і фацімскае пасланне Найсвяцейшай Маці можна лічыць адными з найбольшых ласкаў Неба для апошніх пакаленняў. Яны стаяць на той жа дарозе – дарозе да збаўлення, па якой ідуць людзі, што ўсведамляюць свае грахі, зламаныя ў сэрцы, пакорныя і тыя, у жыцці якіх ёсць месца для Бога.***

У 1916 годзе пастушкам з Фацімы з’явіўся Анёл, каб падрыхтаваць сэрцы дзяцей да прыняцця паслання Белай Панны. Падчас 2-ой сустрэчы ён сказаў малым візіянерам: ***“Маліцеся! Шмат маліцеся! Найсвяцейшыя Сэрцы Езуса і Марыі хочуць аказаць Вам міласэрнасць”.*** І навучыў іх наступнай малітве: ***“Найсвяцейшая Тройца, Ойча, Сыне і Дух Святы. Ахвярую Вам Найсвяцейшае Цела і Кроў, Душу і Боскасць Пана нашага Езуса Хрыста, прысутнага на алтарах усяго свету, як узнагароду за знявагі, святатацтва і абыякавасць, якімі Яго абражаюць. Праз бясконцыя заслугі Яго Найсвяцейшага Сэрца і праз заступніцтва Беззаганнага Сэрца Марыі прашу аб ласцы навяртання бедных грэшнікаў”.***

У ліпені 1917 года Найсвяцейшая Панна аб’явіла дзецям Божы план міласэрнасці, праз які Усемагутны хоча выратаваць душы грэшнікаў ад пекла. Ён заключаўся ва ўстанаўленні на свеце набажэнства да Яе Беззаганнага Сэрца. Гэтая поўная міласэрнасці місія збаўлення ахоплівае ўсіх вернікаў, якія выконваюць просьбы Маці Божай, што просіць аб малітве, ахвярах і актах падзякі. Таму Марыя, заахвочваючы дзяцей адгаворваць Ружанец, сказала ім прамаўляць пасля кожнай таямніцы: ***“О мой Езу, прабач нам грахі нашыя, захавай нас ад агню пякельнага, правядзі ўсе душы на неба і дапамажы асабліва тым, каму найбольш патрэбна Твая міласэрнасць”.*** Бо, як год таму сказаў Анёл, ***“Найсвяцейшыя Сэрцы Езуса і Марыі хочуць аказаць міласэрнасць”.***

Св. Фаўстыну Бог рыхтаваў да місіі быць выбраным “начыннем” сваёй міласэрнасці праз фарміраванне яе сэрца ў духу фацімскага паслання, пра якое яна яшчэ нічога не ведала. Аднак, паддаўшыся натхненню Святога Духа, яна дазволіла весці сябе так, як запланаваў Пан. У “Дзённіку” манахіні чытаем, што для яе вельмі важным было навяртанне Расіі, Божая апека над Святым Айцом і ацаленне закаранелых грэшнікаў, а значыць дакладна тое, што з’яўляецца сутнасцю аб’яўленняў у Фаціме. У дзень сваіх манаскіх абяцанняў св. Фаўстына скіравала да Хрыста 3 просьбы, верачы, што ў такі момант Пан ні ў чым ёй не адмовіць: ***“Езу, найдаражэйшы мой Абранік, прашу Цябе аб трыумфе Касцёла, асабліва ў Расіі і Іспаніі, аб благаслаўленні для Святога Айца Пія XI і ўсяго духавенства, аб ласцы навяртання для закаранелых грэшнікаў” (Дз. 240).***

І ў фацімскім пасланні Найсвяцейшая Маці абвяшчала просьбу, скіраваную Богам, каб Папа прысвяціў Расію Яе Беззаганнаму Сэрцу. Такім чынам у свеце павінна была аб’явіцца “моц міласэрнай Любові”. Выконваючы гэтае заданне, Святы Айцец Ян Павел ІІ выразна спалучыў фацімскі зварот з праўдай аб Богу, багатым на міласэрнасць. Для яго даручэнне Беззаганнаму Сэрцу Марыі з’яўлялася “ахвяраваннем самой Любові, міласэрнай Любові”. Таму Пантыфік звяртаўся да Неба з магутным выклікам, у якім Беззаганнае Сэрца Марыі і Божая міласэрнасць накладваюцца адно на адно: ***“Няхай у гісторыі свету аб’явіцца бясконцая моц міласэрнай Любові! Няхай стрымае зло! Няхай перамяніць сумленні! Няхай у Беззаганным Сэрцы адкрые для ўсіх святло Надзеі!”.***



*Месца аб’яўлення дзецям Анёла ў Фаціме*

Такім чынам, Божая міласэрнасць – гэта дар, які можам атрымаць праз заступніцтва Марыі, самай вернай вучаніцы Езуса. Фацімскае пасланне яшчэ раз заклікае ўсіх нас да ўразлівасці і ўвагі, а таксама запрашае, каб праз акт прысвячэння Беззаганнаму Сэрцу Маці Божай нанова наблізіцца да крыніц Міласэрнасці.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# “Цуд адбыўся ў Палестыне”

**Пад такой назвай у Гродзенскім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі адкрылася выстава, прысвечаная найважнейшаму хрысціянскаму святу – Вялікадню. Разынкай экспазіцыі сталі абразы з перламутру, перададзеныя Беларускаму нацыянальнаму тэхнічнаму ўніверсітэту Пасольствам Палестыны ў Беларусі.**



Падчас урачыстага адкрыцця выставы ў Гродзенскім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі

Урачыстае адкрыццё выставы адбылося ў Вялікую пятніцу. У ім прыняў удзел Пасол Палестыны ў Беларусі Халед Арыкат. Дыпламат павіншаваў гродзенцаў з надыходзячым святам Вялікадня і запрасіў наведаць Палестыну. Як адзначыла дырэктар музея Рыта Янчалоўская, арганізацыя выстаў напярэдадні светлага свята Пасхі ўжо стала добрай традыцыяй. Сёлета навуковыя супрацоўнікі ўстановы таксама прыклалі шмат намаганняў і стварылі цікавую экспазіцыю, каб пазнаёміць наведвальнікаў музея з найважнейшымі падзеямі евангельскай гісторыі ад Пальмовай нядзелі да Вялікадня.

Частку выставачнай залы адвялі пад прадметы з фондаў музея – абразы, царкоўнае адзенне, літургічнае начынне і г. д. Асобна размясцілі памятныя сувеніры са Святой Зямлі, а таксама створаныя па ўнікальнай тэхналогіі абразы з перламутру. ***“Людзі спрадвеку аздаблялі абразы найбольш каштоўнымі рэчывамі, у тым ліку перламутрам. Назва гэтага матэрыялу («Perlmutter») у перакладзе з нямецкай мовы азначае «маці жэмчугу». З ракавінай, альбо жамчужніцай, часта параўноўваецца Маці Божая, якая падарыла свету бясцэнны Жэмчуг – Хрыста. У Евангеллі з перламутрам таксама параўноўваецца Валадарства Нябеснае, якое, як каштоўную жамчужыну, набыў купец, прадаўшы ўсю сваю маёмасць”***, – падкрэслівае спадарыня Рыта.



Абраз “Маленне аб чашы”, 1882 г.

Старэйшы навуковы супрацоўнік музея Галіна Хамко адзначае, што разьбой па перламутру ў XVII стагоддзі ў ваколіцах Бэтлеема займаліся манахі-францысканцы і мясцовае насельніцтва. Майстры ствралі на перламутравых ракавінах выявы святых. Заможныя людзі набывалі такія памятныя сувеніры і прывозілі іх на Радзіму як памятку аб паломніцтве ў Святую Зямлю.

***“На нашай выставе экспануюцца абразы, якія спалучаюць у сабе 2 тэхнікі: старадаўнюю і сучасную – гэта разьба па перламутру і друк. Наведвальнікі могуць пабачыць абраз Маці Божай Іерусалімскай і ўнікальны абраз Маці Божай Бэтлеемскай, дзе Багародзіца ўсміхаецца. Таксама прадстаўлены кампазіцыі на евангельскія тэмы. Сярод іх – абраз Святой Сям'і. Ён вельмі папулярны сярод хрысціян, наколькі дэманструе ўзор дасканалай сям'і, да якога кожны імкнецца. Акрамя таго, на выставе дэманструецца кераміка з выявамі рыб – сімвалам, якім карысталіся першыя хрысціяне”***, – распавядае спадарыня Галіна.




Абраз, выкананы ў тэхніцы разьбы па перламутру

Па яе словах, ні адна выстава, прысвечаная Вялікадню, не абыходзіцца без расповеду пра апошні тыдзень зямнога жыцця Збаўцы. Асабліваю ўвага на экспазіцыі надаецца Пасхальнаму Трыдууму. Пра Вялікі чацвер нагадвае абраз “Тайная вячэра”. У ім мастак зрабіў акцэнт на тым, як Езус устанаўлівае Эўхарыстыю – Найсвяцейшы Сакрамант свайго Цела і Крыві. Таксама на палатне выразна вылучаны вобраз Іуды, які сядзіць адвярнуўшыся пляча да астатніх вучняў і мае вельмі непрыемны выраз твару.

Абразы “Малітва аб чашы”, “Галгофа”, “Палажэнне ў труну” экспануюцца пасля рэстаўрацыі. Сюжэтам першага твора з'яўляецца малітва Хрыста ў Аліўным садзе перад мукай і смерцю. У ім іканапісец перадае адзіноту Збаўцы, а таксама 2 Яго сутнасці: чалавечую і Боскую. Як Бог Езус ведаў, што яго чакае Крыж, а як чалавек адчуваў моцны сум і тугу, таму сказаў: “Ойча Мой, калі магчыма, няхай абміне гэты келіх Мяне. Аднак не як Я хачу, але як Ты” (Мц 26, 39). Тады, трохі пазней, Ён вымавіў: “Ойча Мой, калі не можа келіх гэты абмінуць Мяне, каб Мне не піць яго, няхай станецца воля Твая” (Мц 26, 42).

У той жа заходне-еўрапейскай трыдыцыі, якой уласцівы рэалізм, напісаны абраз “Галгофа”. На ім адлюстравана трагічная сцэна ўкрыжавання Хрыста. ***“Распавядаем наведвальнікам пра звычай пакарання смерцю праз распяцце, распаўсюджаны ў Рымскай імперыі шмат гадоў таму. Такая мера звычайна выкарыстоўвалася ў дачыненні да рабаўнікоў, забойцаў,*** – гаворыць Галіна Хамко. – ***Смерць на крыжы была страшнай, людзі паміралі вельмі доўга. Але ведаем, што Хрыстос памёр ужо ў пятніцу. І калі ваяры прыйшлі, каб перабіць укрыжаваным голені, то ўбачылі Езуса мёртвага і не сталі гэтага рабіць. Такім чынам здзейсніліся словы Пісання: «косць Ягоная хай не будзе зламана» (Ян 19, 36)”.***

На палатне “Палажэнне ў труну” адлюстраваны вучні Нікадзім і Юзаф, якія абвілі плашчаніцай цела Езуса і паклалі яго ў магілу, высечаную ў скале.

Цэнтральнае месца на выставе займае тэма Нядзелі Уваскрасення Пана – галоўнага свята хрысціян, якія вераць, што Хрыстос паўстаў з мёртвых, каб засведчыць усяму свету, што Ён, Сын Божы, можа перамагчы смерць. На экспазіцыі “свята свят” прадстаўлена абразамі “Зыходжанне ў пекла” і “Уваскрасенне”. Аўтар апошняга не прытрымліваўся строгіх канонаў, а абапіраўся на ўласныя адчуванні. І адлюстраваў Збаўцу, які трымае ў руцэ знамя. Пад Яго нагамі знаходзіцца пустая дамавіна, а вакол – выявы анёлаў.

***“У бягучым годзе ўпершыню распавядаем пра традыцыю пасхальнага звону і паказваем званочкі,*** – працягвае старэйшы навуковы супрацоўнік. – ***Яшчэ ўзгадваем пра пасхальны агонь, які з'яўляецца ў царкве на распачацце вігіліі Вялікадня і азначае перамогу святла над цемрай і жыцця над смерцю. Пасхальны агонь – гэта і сімвал аднаўлення, і сімвал Езуса, які з'яўляецца «святлом свету»”.***

Галіна Хамко падкрэслівае, што на экспазіцыі прадстаўлена яшчэ шмат цікавых экспанатаў, прысвечаных Вялікадню. І запрашае цікаўных неведаць выставу, якая будзе працаваць да канца мая.

*Кінга Красіцкая*

**Час працы музея:**

**10.00–18.00** *(штодзённа)*, **каса – да 17.30. Бясплатны ўваход – кожны 2-гі панядзелак месяца.**

---

## Слова для жыцця

### *Папа Францішак*



*Калі хтосьці з вас мяне запытае, як нараджаецца надзея, адкажу: “З крыжа. Паглядзі на яго, зірні на распятага Хрыста, і адтуль да цябе прыйдзе надзея, якая ўжо не знікне, якая трывае аж но да вечнага жыцця”. І гэтая надзея паўстала толькі сілаю любові, таму што любоў, якая “на ўсё спадзяецца, усё цярпіць” (1 Кар 13, 7), якая з'яўляецца жыццём Бога, аднавіла ўсё, да чаго дакранулася. Так у падзеях Пасхі Езус пераўтварыў, беручы на сябе, нашы грахі ў прабачэнне, нашу смерць – ва ўваскрасенне, наш страх – у давер. Вось для чаго там, на крыжы, нарадзілася і заўсёды адраджаецца надзея. Вось чаму з Езусам усе нашы цёмныя стораны могуць пераўтварыцца ў святло, кожнае паражэнне – у перамогу, кожнае расчараванне – у надзею.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Вялікую сераду, 12.04.2017*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Уваскрасенне Хрыста не толькі напаўняе нашыя сэрцы радасцю і супакоем, яно поўнасцю змяняе перспектыву жыцця. Прыгожа пра гэта гаворыць св. Павел: “Калі ж вы ўваскрэслі з Хрыстом, шукайце таго, што ў вышынях, дзе Хрыстос сядзіць праваруч Бога; пра тое, што ў вышынях, думайце, а не пра зямное, бо вы памерлі, і жыццё вашае схавана з Хрыстом у Богу!” (Кал 3, 1–3). Што значаць гэтыя словы? Пасля св. Імшы мы выйдзем з касцёла і пойдзем дадому. Назаўтра нанова прымемся за штодзённую працу, вучобу ці іншыя абавязкі – вернемся да таго, што называем руцінай ці шэрай штодзённасцю. Наша жыццё будзе праходзіць у звычайным, нармальным рытме, але ўнутры, у нашых сэрцах затаіцца надзея новага жыцця – таго, якое з'яўляецца дарам уваскрослага Хрыста. Жывучы гэтай надзеяй, “шукаем тое, што ў вышынях”, як кажа св. Павел, самога Хрыста і Яго Евангелле. Уваскрасенне Збаўцы – запрашэнне, каб мы сапраўды сур'ёзна пачалі ўспрымаць Яго навуку. Нават тады, калі не разумеем яе, калі яна здаецца занадта жорсткай, патрабавальнай, нязручнай, неадпаведнай сённяшняму часу.*

*Фрагмент казання, прамоўленага падчас рэзурэкцыйнай св. Імшы, 16.04.2017*




*Упершыню ў Карэі праводзіцца беатыфікацыйны працэс, які датычыць сучаснікаў. Да хвалы алтара будуць вынесены 214 мучанікаў, забітых з нянавісці да веры. Да гэтага часу займаліся толькі постацямі з перыяду пачатку евангелізацыі ў краіне. Кіраўнік камісіі епіскапата па кананізацыйных справах біскуп Лазара Ю Хэн-сік паведаміў, што да беатыфікацыі мучанікаў "пройдзе яшчэ як мінімум 10 гадоў", але для карэйскіх католікаў "гэтыя асобы ўжо святыя".*

*У Рыме (Італія) у памяшканнях валанцёрскай арганізацыі "Цэнтр людзей свету" адкрылася "Пральня папы Францішка". Яна будзе бясплатна аказваць паслугі бедным, у прыватнасці бяздомным, якія змогуць памыць тут сваю вопратку і пакрывала. У будынку ўстаноўлены 6 пральных і столькі ж сушыльных машын, ёсць прасы. У тым жа квартале на працягу наступных месяцаў плануецца арганізаваць душавыя кабіны, цырульню, медыцынскія кабінеты і пункт раздачы прадметаў першай неабходнасці.*

*Ля падножжа Вавеля ў Кракаве (Польшча) засеяны луг на ўспамін візіту ў краіну Святога Айца. Падчас Сусветных дзён моладзі 2016 папа Францішак асвяціў 6 кг насення, прадстаўленага Дыракцыяй па азеляненні горада. Пантыфіку, якому экалогія вельмі блізкая, такая думка прыйшлася даспадобы. Таму ўжо ў хуткім часе каля 50-ці відаў лугавых кветак пераважна жоўтага колеру распусцяцца на беразе Віслы. Сярод іх шматгадовыя расліны, якія за год рассеюцца, і луг заквітнее зноў.*

*Адзін з вядучых экзарцыстаў у ЗША кс. Вінцэнт Ламперт падае ўсё больш інфармацыі аб інтэнсіфікацыі "дэманічнай актыўнасці". На думку святара, "праблема не ў тым, што д'ябал палепшыў сваю гульню, але ў тым, што ўсё больш людзей гатовы прымаць у ёй удзел". Крыніцамі, што адкрываюць людзей на дэманічную дзейнасць, ён назваў парнаграфію, наркотыкі і забаву ў акультныя практыкі, якія для пачаткоўца з'яўляюцца "пунктам уваходу". Святар таксама звяртае ўвагу на такія формы яго актыўнасці, як інфестацыя, надакучванне і апанаванасць.*

*Усё больш і больш святынь і манастыроў на Захадзе Еўропы ператвараюцца ў месцы для забаў. Апошнія таму прыклады – прыгожы гатычны манастыр XV стагоддзя ў Галандыі, перабудаваны ў шыкоўны гатэль і рэстаран, касцёл на поўначы Іспаніі, перароблены ў скейтпарк. У ЗША святыні ператвараюць у бровары і вінныя склепы. У большасці выпадкаў гэта выклікае абурэнне грамадскасці. На некаторых час пратэсты і дэманстрацыі прыпыняюць працэс дэсакралізацыі. Але неўзабаве людзі "вяртаюцца да нармальнага жыцця" і святыні са згоды ўлад змяняюцца ў месцы часовых задавальненняў.*

*credo-ua.org; pch24.pl; ekai.pl*

*Ангеліна Пакачайла*



# Божая міласэрнасць і сумленне чалавека

● *працяг са с. 1*

## Ігнараванне грахоў

Сёння многія вернікі ўспрымаюць грахі, нават такія цяжкія, як сужыццё перад шлюбам ці перарыванне цяжарнасці, чыста тэарэтычна (накшталт "так, ведаю, што гэта грэх"), але зусім не перажываюць з-за іх. Малітва асобы, якая так паступае, падобна на малітву фарысея з евангельскай прытчы: "Езу, вазьмі мае грахі на сябе! Але гэта дробязь, таму што я добры і высакародны чалавек. Не такі, як той, у якога няма аніякіх вартасцей!". Хто думае падобным чынам, ігнаруе ўласныя грахі і праз гэта закрывае перад сабой дарогу да Божай міласэрнасці.

Для таго, каб выйсці насустрач Айцу, неабходна стаць у праўдзе, называць рэчы сваімі імёнамі, прызнаць асабістыя грахі і ўзяць на сябе адказнасць за іх. Толькі той, хто шакіраваны сваёй грэшнасцю, пачынае прасіць Езуса, каб узяў адказнасць за яго падзенні, таму што не можа самастойна справіцца з імі. Без гэтага кроку немагчыма даручыць сябе Хрысту. Без усведамлення цярпенняў і мукі Езуса, якія неабходны для майго збаўлення, нельга скарыстаць з Божай міласэрнасці. Няма пачуцця граху і раскаяння – няма міласэрнасці.

## Людскі самападман

Евангелле перадае, што Езус няспынна разбураў чыста чалавечыя падманныя погляды сваіх суайчыннікаў, выкрываў эгаістычныя мадэлі мыслення фарысеяў. Можна сказаць, што падчас сваёй дзейнасці Ён нястомна фарміраваў сумленне сваіх вучняў, асабліва 12-ці Апосталаў. Усё ім дакладна растлумачваў, папярэджваў: "Глядзіце, асцерагайцеся закваскі фарысейскай і закваскі Ірада" (Мк 8, 15).

Часам Яго словы шакіравалі вучняў, як, напрыклад, калі звярнуўся да Пятра: "Адыдзі ад Мяне, сатана, бо думаеш не пра тое, што Божае, а пра тое, што чалавечае" (Мк 8, 33). Выклікалі здзіўленне – навукі аб любові да ворагаў, падстаўленні другой шчакі, замілаванні да беднасці і крыжа.

Езус сказаў: "Светачам цела ёсць вока. Калі ж вока тваё чыстае, то ўсё цела тваё будзе светлае. Калі ж вока тваё дрэннае, то ўсё цела тваё будзе цёмнае. Калі ж святло, якое ў табе, з'яўляецца цемрай, то якая ж цемра" (Мц 6, 22–23). Словы Пана прымушаюць сур'ёзна засяродзіцца над станам свайго сумлення.

## Дэфармаванае сумленне чалавека

Людское сумленне вельмі чуллівае і крохкае. А, як вядома, тое, што далікатнае, лёгка пашкодзіць і цяжка выправіць.

На фарміраванне людскога сумлення вялікі ўплыў мае сучасны свет. І калі жаданне святасці ў чалавеку вельмі маленькае, а малітва слабая, можна не заўважыць, што яго сумленне падлягае скажэнню. Вельмі лёгка сапсаваць зрок, але палепшыць яго вельмі складана, а часам нават абсалютна немагчыма – прыходзіць слепата. Невыпадкова Касцёл называе моцна дэфармаванае сумленне "асляпленнем" ці "жорсткасцю сэрца".

Тэолаг мараліст кс. праф. Раман Кулігоўскі параўноўвае сумленне з вокам: "Вока не стварае рэчаіснасць, а толькі чытае яе. Сумленне таксама не стварае маральную рэчаіснасць, але распазнае аб'ектыўны маральны закон, успрымае, што добрае, а што дрэннае. Гэтым законам з'яўляюцца запаведзі, навучанне Езуса Хрыста, а таксама нормы, акрэсленыя Настаўніцкім інстытутам Касцёла".

Катэхізіс сцвярджае: "Маральнае сумленне, прысутнае ў глыбіні асобы, у адпаведны момант наказвае чалавеку выконваць добрае, а пазбягаць дрэннага... Разважлівы чалавек, прыслухоўваючыся да сумлення, можа пачуць Бога, які размаўляе з ім" (ККК 1777). "Сумленне, становячыся перад маральным выбарам, можа выдаць правільнае меркаванне, згоднае з розумам і Божым правам, як і наадварот – памылковае, якое адрознівaецца ад гэтага" (ККК 1786). Таму перакананні, якія супярэчаць запаведзям, з'яўляюцца грахом.

## Голас праўды і асабістыя перакананні чалавека

З нашага боку неабходна шмат разважлівасці і сапраўднай пакорнасці, каб умець адрозніць у сумленні голас праўды ад голасу свайго суб'ектыўнага пераканання, які, на жаль, часта памыляецца. Варта ведаць, што людское сумленне не можа быць апошняй інстанцыяй праўды і дабра, паколькі патрабуе няспыннай фармацыі згодна з вучэннем Збаўцы, які сказаў пра сябе: "Я – дарога, і праўда, і жыццё" (Ян 14, 6). Першай і апошняй інстанцыяй праўды з'яўляецца Божае слова. Да гэтай аб'ектыўнай праўды мы дастасоўваем наша сумленне.

Прымаючы святы хрост у каталіцкім Касцёле, мы выбіраем Езуса і Яго вучэнне. Абсурдна вызнаваць веру ў Хрыста і адначасова сумнявацца ў Яго словах, ставячы над імі свае суб'ектыўныя перакананні, нават падмацаваныя індывідуальным меркаваннем уласнага сумлення. А мы ж ведаем, як часта памыляемся! Калі чалавек ацэньвае навуку Езуса і Касцёла, ён яшчэ не прызнае Бога, не верыць у Яго і застаецца па-за "зонай збаўлення". Такая асоба давярае сабе больш, чым аўтарытэту Езуса і не прызнае ў Богу найвышэйшай Праўды і Любові. Папа Бенедыкт XVI, які выдатна ўмее распазнаць і адказаць на галоўныя праблемы сучаснасці, назваў гэта "культам суб'ектывізму".

Кожны з нас павінен разважыць, ці не прычыняе Хрысту пакут праз свае думкі, словы і ўчынкі, не заўважаючы гэтага. Можа, зачаста гаворым "мне так здаецца", "я так лічу", зусім не задумваючыся над тым, ці падабаюцца такія перакананні Богу.

## Права на індывідуальную ацэнку ў справах маральнасці веры?

Індывідуалізм і "культ суб'ектывізму" сягаюць каранямі ў часы рэфармацыі былога манаха Марціна Лютэра. У гісторыі Касцёла ён з'яўляецца класічным прыкладам таго, што можа стаць з чалавекам, які суб'ектыўныя перакананні паставіць па-над навучаннем Касцёла. Лютэр браў пад сумніў Касцёл, які, дарэчы, да яго прыходу на свет на працягу 15-ці стагоддзяў быў "Касцёлам жывога Бога, стаўпом і апірышчам праўды" (1 Цім 3, 15).

Пратэстанцкі тэолаг XX стагоддзя Эрнст Трольч лічыць, што менавіта Лютэр першым заявіў аб праве на індывідуальны суд сумлення ў справах веры і маральнасці, супрацівіўся Святому Айцу і аўтарытэту каталіцкага Касцёла ў імя "суб'ектыўнага перакананя". Рэфарматару прыпісваюць барацьбу з догмамі і маральнымі нормамі каталіцкай веры, якія быццам бы знявольваюць чалавека. Эрнст Трольч казаў, што такім чынам Лютэр стварыў новую рэлігію – "рэлігію сумлення, пазбаўленую дагматычнага прымусу". Наколькі важнай для яго была інстанцыя індывідуальнага сумлення сведчаць прамоўленыя перад імператарам у 1521 годзе ў Вормсе словы: "Я не адклічу сваіх тэзісаў, пакуль не буду пераканы ў сваім сумленні, што памыляюся".

Пастава Лютэра, якой бы высакароднай і прывабнай не здавалася нам у дадзены момант, не павяла яго, аднак, па дарозе святасці. Тыя, каму вядомы далейшы лёс манаха, здзіўлены і шакіраваны некаторымі яго ўчынкамі. Дастаткова прыгадаць хаця б аб жаніцьбе Марціна Лютэра з манахіняй Катарынай фон Бора ці аб наказах крывавага падаўлення сялянскага паўстання... Іншы пратэстанцкі тэолаг Карл Хол пішa, што Лютэр, ствараючы "рэлігію індывідуальнага сумлення", быў перакананы ў аб'ектыўным характары ўласнага сумлення. Пад канец жыцця манах пісаў: "Я не згодны, каб мая навука падлягала чыйму-небудзь асуджэнню, нават анёльскаму. Хто не прымае майго вучэння, не можа дайсці да збаўлення".

Навошта так шмат пра Марціна Лютэра? Для праўды і ўсведамлення: каб маглі распазнаць, што нас вядзе і да чаго можа давесці.

## Абуджэнне сумлення

Здаецца, што "асляпленне", "жорсткасць сэрца", "непарушнасць індывідуалізму сумлення" і "культ суб'ектывізму" сёння дасягаюць вяршыні. Беспадстаўнае абвінавачванне бліжняга і трыванне ў гэтых памылках на працягу гадоў, ашукванне падчас разліку, не аддаванне даўгоў, парнаграфія і іншыя распусныя грахі, разводы і адмова плаціць аліменты, балючае надакучванне бліжнім словам і ўчынкам – усё гэта можа здзіўляць і выклікаць абурэнне ў акружаючых, а чалавек, які так жыве, спакойны і ўпэўнены, што мае рацыю. Многія рэагуюць гневам і агрэсіяй на любыя спробы абудзіць іх сумленне, што сведчыць аб глыбокай закасцянеласці і закрытасці на Божую міласэрнасць.

"Прамаўляю да грэшнікаў праз згрызоты сумлення, праз няўдачы і цярпенні, праз буры і навальніцы, прамаўляю праз голас Касцёла..." (Дз. 1728), – сказаў Хрыстос св. Фаўстыне. І таму спробы абуджэння сумлення, вяртанне да праўды з лабірынтаў мыслення "чыста па-людску", "па-мірску", а можа нават часам "па-д'ябальску" з'яўляюцца для нас вялікай ласкай. Гэта неабходна! Мы павінны быць удзячныя Стварыцелю і людзям, якія ў Яго імя робяць заўвагі адносна нашых учынкаў не з-за злога намеру, але для таго, каб мы маглі скарыстаць з Божай міласэрнасці. На жаль, гэта балюча, аднак такі боль благаслаўлёны.

*Кс. Тадэвуш Крыштопік*

# Некалькі фактаў пра міласэрнасць

**Колькі ўжо сказана пра міласэрнасць!
Са старонак рэлігійнай літаратуры і амбона, з якога прамаўляе святар, яна ўяўляецца ратавальнай сілай, гаючым лекам для сучаснага секулярызаванага грамадства.
Заплюшчваеш вочы – і бачыш анёла, які гатовы здзейсніць нешта прыемнае.
На самой жа справе ў міласэрнасці часта брудныя рукі, апушчаная галава або пусты кашалёк.
Прапануем азнаёміцца з некаторымі характарыстыкамі сапраўднай любові да бліжняга – высакароднай, самаадданай, бязмернай.**

## Міласэрнасць – гэта любоў у Богу да людзей

Згодна з хрысціянскай дактрынай, любоў да Нябеснага Айца набывае ў сэрцы чалавека сапраўднае значэнне, толькі становячыся любоўю ў Богу да людзей. Таму міласэрнасць, насамрэч, дагаджае не чалавеку, а Усемагутнаму. Дабрадзей бачыць у бліжнім вобраз Божы. Нягледзячы на недахопы і заганы чалавека, гэтая праўда выходзіць на першы план. Такім чынам, міласэрнасць глядзіць не вачыма, а сэрцам. Без выключэння і раздзялення. А паколькі кожная душа створана па падабенстве Усявышняга і мае ў сабе Яго часцінку, то павінна самаадвольна імкнуцца да дабра праз дапамогу бліжняму. За гэтай тонкай абалонкай утоена натуральнае людское шчасце, якое палягае на тым, каб адкрывацца на чалавека, несучы яму святло і цяпло.

## Міласэрнасць заўсёды ўключае элемент альтруізму

Шчырыя намеры чалавека, які ажыццяўляе добрую справу, звязаны з дабравольным ахвяраваннем сваімі інтарэсамі, часам, матэрыяльнымі і духоўнымі сродкамі дзеля карысці бліжняга. Ён імкнецца аддаваць, клапоціцца, нічога не патрабуючы ўзамен. Дабро, зробленае іншаму, адчувае нават больш прыемным, чым калі б учыніў яго сабе. Такія павodзіны грунтуюцца на маральнасці, якая выплывае з ідэі доўгу хрысціяніна перад бліжнім: варта любіць іншага чалавека, як самога сябе. І гэта нават не ўстойлівая пазіцыя (бо можна любіць сябе і менш, чым іншага), а хутчэй стымул задаволіць існуючую прагу душы.

"Міласэрнасць – гэта вялізная сіла, якая злучае і аб'ядноўвае людзей. Яна збліжае мацней за кроўнае сваяцтва і сяброўства".

*Св. Маці Тэрэза, заснавальніца каталіцкай Кангрэгацыі Сясцёр Місіянерак Любові*

## Шчырая міласэрнасць часцей за ўсё спантанная

Можна штомесячна рабіць адлічэнні на рахунак дабрачыннага фонду або рэгулярна дапамагаць нейкаму чалавеку ў патрэбе. Вядома, усё гэта з'яўляецца праяўленнем міласэрнасці, але ж яна базуецца на разліку. Крыху вышэй за дадзеныя справы – спантанныя ўчынкі, зробленыя па кліку сэрца. Так, напрыклад, сілай унутраных пабуджэнняў можна падтрымаць выпадковага прахожага, які трапіў у цяжкае становішча. У гэтым і заключаецца істотная розніца: чалавека штурхае да дзеяння не розум, а сэрца.



"Чым больш грэшны чалавек, тым больш у яго праў на Божую міласэрнасць".

*Св. Фаўстына Кавальская, місіянерка Божай міласэрнасці*

## Міласэрнасць па-сапраўднаму не разлічвае на ўзнагароду

Па сваёй сутнасці дабрачыннасць – справа бескарыслівая. "Няхай не ведае левая рука твая, што робіць правая" (Мц 6, 3), – гаворыцца ў Святым Пісанні. Звычайна той, хто здзяйсняе міласэрнасць у адносінах да бліжняга, імкнецца зрабіць гэта сціпла, у таямніцы. Не шукае пахвалы або ўдзячнасці, бо атрымаўшы ўшанаванне на зямлі, не атрымае ў небе.

## Няма вялікіх і малых спраў міласэрнасці

Добрыя ўчынкі немагчыма параўноўваць паміж сабой: міласэрнасць не ведае меры. Для чалавека часам большую карысць прыносіць трапнае слова, чым дапамога ў паляпшэнні матэрыяльнага становішча. Але гэта з'яўляецца вялікай таямніцай для дабрадзея, якая, магчыма, адкрыецца яму толькі ў вечнасці.

## Міласэрнасць не ведае межаў

Нельга сказаць, што ёсць якісьці ліміт на здзяйсненне добрых спраў. Міласэрнасць павінна быць спосабам жыцця хрысціяніна. Уважлівы і чулы вернік імкнецца скарыстаць любую магчымасць, каб падставіць сваё плячо падтрымкі, тым самым стаўшы прыкладам для ажыццяўлення святой Божай волі.

## Міласэрнасць зразумелая кожнаму

У свеце, дзе так шмат культур і нацыянальнасцей, людзям часам цяжка знайсці агульную мову. Здараецца, што хтосьці няправільна расцэньвае словы субяседніка, не належным чынам успрымае яго паводзіны. Міласэрнасць жа з'яўляецца ўніверсальным сродкам зносін для людзей рознага месца жыхарства, узросту, сацыяльнага становішча і г. д. Асоба, якая намагаецца здзейсніць добрую справу, бачыцца з працягнутай адкрытай далонню. Ад яе зыходзіць зычлівасць і бяспека. Такі чалавек выклікае давер.

**Атрымліваецца, міласэрнасць – гэта не штосьці неахопнае, а канкрэтны высілак, заснаваны на воклічы сэрца. Шчыра робячы добрую справу, чалавек забываецца пра сябе, час і тое, што адбываецца навокал. Не задумваючыся, узбагачаецца духоўна. Хто хоць аднойчы спазнаў смак любові Божай да бліжняга, таму ўжо не даводзіцца нудзіць сябе на жэст міласэрнасці. Ён як следства выцякае з прычыны – любові. І чым больш дасканалая любоў, тым больш поўная і дасканалая міласэрнасць.**

*Ангеліна Пакачайла*




***Больш глыбока спазнаць таямніцу Божай любові нам давялося падчас Юбілею міласэрнасці, які не так даўно перажывалі. Яшчэ раз мы ўсвядомілі сабе, што менавіта міласэрнасць робіць чалавека Чалавекам, дазваляе праявіць і ў той жа час адчуць любоў Усемагутнага. Нездарма ж Пан Езус наказвае: "Будзьце міласэрныя, як і Айцец ваш міласэрны" (Лк 6, 36).***

*След гэтага святога года асаблівым чынам адбіўся ў сэрцах вернікаў дзятлаўскай парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Падчас яго ў касцёле адбылося шмат знамянальных падзей. Да тэмы Юбілею былі прымеркаваны рэкалекцыі, сустрэча пілігрымаў. Адбыліся святыя місіі, якія далі магчымасць адчуць Боскую ласку і міласэрнасць. Была праведзена дабрачынная акцыя для дзяцей-інвалідаў "Ад сэрца да сэрца". Прайшла сустрэча салезіянскіх міністрантаў і свята салезіян-супрацоўнікаў. Ва ўрачыстасць св. Юзафа – Дзень бацькі – у мясцовым араторыі імя благаслаўлёных мучанікаў з Познані была арганізавана святочная праграма "Мой тата самы лепшы".*

*Дзякуючы намаганням пробашча парафіі кс. Здзіслава Пікулы і маладых людзей з салезіянскага араторыя ў цэнтры культуры і народнай творчасці г. Дзятлава адбыўся канцэрт пад назвай "Святло Нараджэння Хрыстова". Як слушна заўважыў на пачатку мерапрыемства пробашч, адбудзецца не проста прадстаўленне – "супольная малітва, увасобленая праз творчасць". Ніводны нумар у гэты вечар не пакінуў прысутных раўнадушнымі. Пранікнёныя словы вядучых абуджалі самыя светлыя пачуцці. Пасля адбылася калядная віктарына на веданне біблейскай гісторыі. У канцы мерапрыемства на сцэну выйшлі дзеткі з запаленымі свечкамі на знак надзеі на светлую будучыню.*

*Падчас Года міласэрнасці вернікі асаблівым чынам ушаноўвалі Маці Божую. Ва ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі пасля літургіі парафіяне маліліся ля грота з фігурай Маці Божай Фацімскай. Супольна аддавалі Ёй хвалу падчас ратратніх св. Імшаў. У свята Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ішлі ва ўрачыстай працэсіі ў суправаджэнні духавога аркестра. Завяршылі парафіяльны адпуст крыжовым ходам.*

***Увогуле, жыццё ў нашым касцёле за апошнія гады значна ажывілася дзякуючы нястомнай працы пробашча. Кс. Здзіслаў – цудоўны святар, самаадданы. Ён здолеў знайсці падыход да кожнага, павёў за сабою як дзяцей, так і дарослых. Сапраўдны салезіянін! Ад імя ўсіх парафіян хачу выказаць пробашчу словы глыбокай павагі. Кс. Здзіслаў, дзякуем за ўсё, што для нас робіце, за любоў, якой не шкадуеце, шчырую малітву, цярплівасць, духоўную апеку. Жадаем Вам здароўя на доўгія гады жыцця, штодзённай радасці, добразычлівых парафіян і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Аддзяч Божа!***

*Аліна Барбоўская, г. Дзятлава*







### Выйшла паштовая марка да 90-годдзя Бенедыкта XVI

***На ёй змешчаны партрэт Папы на пенсіі, які моліцца трымаючы ў руках ружанец.***

*Аўтарам малюнка з'яўляецца італьянская мастачка Даніэла Лонга. Намінал юбілейнай паштовай маркі – 95 еўрацэнтаў.*

*Калекцыянеры таксама маюць магчымасць набыць філатэлістычны набор з 4-ох марак, на якім змешчана выява братэрскіх абдымкаў пантыфікаў Бенедыкта XVI і Францішка.*




### Іспанскі ўрад памілаваў 7 вязняў з нагоды Вялікага тыдня

***Вызваленне адбылося падчас пакутнай працэсіі.***

*Звычай памілавання зняволенага вельмі даўні. У сярэдзіне XVIII стагоддзя ў Малазе пачалася эпідэмія чумы, якая вынішчала жыхароў. Калі не стала каму несці абразы падчас працэсіі, гэта зрабілі мясцовыя вязні. Пасля заканчэння крыжовага ходу яны спакойна вярнуліся на свае месцы, ніхто не ўцёк. Навіна аб гэтай падзеі дайшла да караля Карла III, які надаў Брацтву Езуса прывілей кожны год у Вялікую сераду вызваляць аднаго вязня.*

*Аб падобным праве пачалі прасіць таксама іншыя брацтвы. Сёння яны звяртаюцца да ўрада з просьбай памілаваць аднаго вязня са свайго рэгіёна. Судовыя і турэмныя ўлады разглядаюць адпаведны запыт і выдаюць ацэначны ліст, які прымае пад увагу ўрад краіны.*

CatholicNews.by

### На лонданскім грамадскім транспарце размесцяць цытаты з Бібліі

***Выказванні са Святога Пісання ўпрыгожаць 75 гарадскіх аўтобусаў у межах кампаніі "Quote Jesus" ("Цытую Езуса").***

*Арганізатары акцыі абралі 3 выслоўі з Бібліі: "Кожны, хто жыве і верыць у Мяне, не памрэ" (Ян 11, 25), "У доме Айца Майго шмат святліц" (Ян 14, 2) і "Я – дарога, і праўда, і жыццё" (Ян 14, 6).*

*"Пасля нападаў у Вэстмінстэры стала зразумела, што надзея, а дакладней яе адсутнасць, становіцца ключавым пытаннем сучаснага грамадства, – адзначыў Говард Кондэр, адзін з арганізатараў акцыі. – Мы лічым, што Біблія можа шмат расказаць пра надзею. Хочам, каб гэтая кампанія паўплывала на сэрцы і розумы людзей, каб прапанавала ім надзею і веру ў лепшую будучыню".*

*Кінга Красіцкая*

## Імша Хрызма прайшла ў Гродне

*У Вялікі чацвер у катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя прыбылі святары, якія нясуць паслугу ў розных парафіяльных супольнасцях Гродзеншчыны, каб дзякаваць Езусу Хрысту за вялікі і цудоўны дар святарства. У святыні таксама сабралася шмат вернікаў, якія прагнулі ахінуць малітвай душпастыраў і падзякаваць ім за штодзённае, такое патрэбнае свету служэнне.*



Падчас літургіі былі асвечаны алей хворых, алей катэхуменаў і кансэкраваны алей хрызма. Св. Імшу ўзначаліў біскуп Аляксандр Кашкевіч. У гаміліі Гродзенскі ардынарый нагадаў, што кожны святар на моцы атрыманага сакраманту пасвячэння па волі Хрыста ўдзельнічае ў місіі Сына Чалавечага. "Сёння ўся супольнасць Касцёла дзякуе за пакліканні да святарства, бо кожны святар з людзей узяты і да людзей пасланы. Мы, ксяндзы, ніколі не перастанем захапляцца гэтым дарам, – сказаў біскуп Кашкевіч. – Быць святаром – гэта значыць звязаць сваё жыццё з Хрыстом, зрабіць Яго сваім Настаўнікам і Правадыром, найвышэйшым Аўтарытэтам і найбліжэйшым Сябрам". Іерарх таксама адзначыў, што святар павінен быць накшталт бэтлеемскай зоркі, якая вядзе людзей да Бога.

На той жа дзень прыпала 26-ая гадавіна ўтварэння Гродзенскай дыяцэзіі. З гэтай нагоды біскуп Кашкевіч выказаў словы падзякі ўсім, хто ўтварае прэзбітэрый Касцёла на Гродзеншчыне, за штодзённую святарскую паслугу, за вернасць Богу і Касцёлу, за будаўніцтва Божага Валадарства ў людскіх сэрцах праз абвяшчэнне Евангелля, за ўдзяленне святых сакрамантаў, за катэхізацыю, за клопат пра бедных і хворых, а перш за ўсё – за жыццёвае сведчанне. "Кожны з вас мае ўласны спосаб фарміравання сучаснасці і будучыні Гродзенскага Касцёла. І я дзякую за гэта і прашу, каб Хрыстос шчодра вас узнагародзіў", – дадаў біскуп. Падзякаваў таксама ўсім вернікам і заахвоціў да далейшай малітвы за духавенства.

Падчас Імшы святары аднавілі святарскія абяцанні, просячы ў Бога трываласці на далейшыя гады служэння і духоўнай моцы ў рэалізацыі заданняў, якія ставіць перад імі Хрыстос.

## Біскупы Гродзенскай дыяцэзіі склалі віншаванні новаму Мітрапаліту Беластоцкаму

*Намінат арцыбіскуп Тадэвуш Война заменіць арцыбіскупа Эдварда Азароўскага, які нёс пастырскую паслугу з 2006 года, а сёння знаходзіцца на пенсіі.*



У перасланых віншаваннях біскупы Аляксандр Кашкевіч і Юзаф Станеўскі падкрэслілі, што Беластоцкая архідыяцэзія мае шмат супольнага з Гродзенскай дыяцэзіяй, паколькі ў іх агульныя карані, якія выходзяць з Віленскага Касцёла. "На пачатку пастырскага служэння хочам пажадаць Вам адвагі, каб місія, даверaная Святым Духам, выконвалася з мужнасцю Хрыста, Добрага Пастыра", – адзначылі іерархі ў сваім лісце. Пажадалі, каб Маці Міласэрнасці выпрасіла для арцыбіскупа "адданае, спагадлівае сэрца і здольнасць нястомнай любові ў стаўленні да давераных людзей".

Арцыбіскуп намінат Тадэвуш Война з'яўляецца палатынам, мае 60 гадоў.

## У Велікодную раніцу ў Гродне адбылася ўрачыстая рэзурэкцыйная працэсія

***Вернікі выйшлі на вуліцы горада, каб засведчыць, што Пан сапраўды ўваскрос, Яго няма ў грабніцы і смерць ужо не мае над Ім улады. Званы каталіцкіх святынь з самага ранку абвясцілі людзям гэтую праўду.***



Св. Імшу ў нядзелю Уваскрасення Пана ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Звяртаючыся з гамiліяй да сабраных, іерарх адзначыў, што сёлета Вялікдзень асабліва красамоўны, бо ўсе хрысціяне – каталікі, праваслаўныя і пратэстанты – адзначаюць яго разам у той самы дзень. Гэтае свята трэба ўспрымаць як напамін аб тым, што, нягледзячы на канфесійныя адрозненні, "ва ўваскрослым Хрысце мы становімся адзіным цэлым".

На заканчэнне супольнага святкавання Велікоднай раніцы біскуп пажадаў дыяцэзіянам, каб урачыстасць была бласлаўлёным часам для кожнага.

## Вернікі з Ашмянаў усталявалі крыж на мясцовай Галгофе

*22-гі па ліку крыж з'явіўся на Святой Гары, што лічыцца адной з самых высокіх кропак у Беларусі. Ля яе паднόжжа захаваліся руіны касцёла св. Францішка, а на самой гары некалі былі могілкі.*



Даўжыня крыжа – не менш за 4 метры. Ён быў усталяваны падчас Крыжовага шляху, якім мясцовыя вернікі сустракалі Вялікі тыдзень. Маршрут склаў каля 2-ух кіламетраў па традыцыйнай трасе: ад касцёла да Святой Гары. Мужчыны неслі крыж на плячах, не апускаючы яго на зямлю.

**АНОНСЫ**

## ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ МАЦІ АДБУДЗЕЦЦА Ў КАПЦЁЎЦЫ

**Мерапрыемства па традыцыі праходзіць у першую нядзелю мая. У святынях Гродзенскай дыяцэзіі вернікі моляцца за жанчын, якія далі ім жыццё, а для памерлых мам просяць вечнага шчасця ў небе.**

Сёлетняя ўрачыстасць адбудзецца 7 мая ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярплівa Слухаючай, на Узгорку надзеі ў Капцёўцы. У гэты дзень туды вырушыць пешая пілігрымка з Гродна. Да ўдзелу запрашаюцца маці, а таксама ўсе жанчыны, каб прасіць у Панны Марыі ласкаў для сваіх сем'яў.

**Праграма:**

08.00 – выхад пілігрымаў з касцёла Маці Божай Анёльскай (францысканскі),
12.00 – прывітанне пілігрымкі кустaшам санктуарыя ў Капцёўцы,
12.00–13.00 – адпачынак і гарбата,
13.00 – Вяночак да Божай міласэрнасці,
13.15 – канферэнцыя,
14.00 – Крыжовы шлях,
15.00 – св. Імша,
16.30 – ад'езд аўтобусамі ў Гродна.

**АНОНСЫ**

## VII ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ ДЗІЦЯЦІ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Мерапрыемства пройдзе 1 чэрвеня ў парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Паўднёвы).**

На сустрэчу запрашаюцца малодшыя вернікі, каб разам у малітве і забаве добра правесці час. Дэвіз сёлетняга мерапрыемства – "Марыя, наша Маці, аб'явілася дзіцяці".

**Умовы ўдзелу:**
- узрост удзельнікаў – да 14-ці гадоў;
- 1 апякун на 10 дзяцей;
- з сабой мець кубак і коўдру або дыванок.

Колькасць удзельнікаў не абмежаваная *(запрашаюцца дзеці з Гродзенскай дыяцэзіі і іншых дыяцэзій Беларусі).*

Арганізатары заклікаюць уключацца ў праграму сустрэчы. Тым, хто хацеў бы прадставіць тэатральную сцэнку, заспяваць на сцэне або прапанаваць іншыя ідэі, якія маглі б узбагаціць план мерапрыемства, патрэбна папярэдне скантактавацца з арганізатарамі.

*Аб удзеле неабходна паведаміць да 26 мая адказнаму за Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці кс. Юрыю Марціновічу па тэл. (8 044) 460-61-40, (8 029) 784-05-72 або на e-mail: sakralna@op.pl.*

## IX ПАРАФІЯДА ДЗЯЦЕЙ І МОЛАДЗІ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Дыяцэзіяльнае мерапрыемства пройдзе 19–22 чэрвеня на тэрыторыі парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Паўднёвы), парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля (Дзевятоўка) і стадыёне ЦСК "Нёман". Дэвіз сёлетняга спаткання – "Разам з Марыяй да Езуса".**

Парафіяда – праект, заснаваны на старажытнагрэчаскай трыядзе "Святыня – Тэатр – Стадыён". Арганізатары забяспечваюць удзельнікам харчаванне і пражыванне, выхаваўча-рэлігійную, культурную і спартыўную праграму.

Кошт – 3 р. (ёсць магчымасць вызвалення ад аплаты). Да ўдзелу запрашаюцца дзеці і моладзь з усёй Беларусі ва ўзросце 11–19 гадоў. Максімальная колькасць прадстаўнікоў ад адной парафіі – 15 чалавек + 1 апякун (можа быць і меншая група). Пры сабе трэба мець афармленую медыцынскую карту ўдзельніка Парафіяды з фотаздымкам, не старэйшым за адзін год.

*Паведаміць аб удзеле неабходна да 1 чэрвеня адказнаму за Парафіяду кс. Артуру Малафею па тэл. (8 033) 624-35-22 або (8 029) 319-54-65. Лісты ўдзельнікаў (імя, прозвішча, дата нараджэння, месца жыхарства) дасылаць да 15 чэрвеня на e-mail: grodno.parafiada@mail.ru.*

## ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ "КАРЫТАС" АРГАНІЗУЕ ЛЕТНІ АДПАЧЫНАК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**"Канікулы з Богам" для хлопчыкаў і дзяўчынак з няпоўных, бедных і малазабяспечаных сем'яў пройдуць у в. Няцеч (Лідскі р-н).**

**Умовы выезду:**
- узрост дзіцяці – ад 7-мі да 11-ці гадоў;
- медыцынскае пасведчанне (выпіска прышчэпак з палiклінікі па месцы жыхарства, што выдаецца дзецям, якія выязджаюць у летні лагер);
- пісьмовы дазвол на выезд ад бацькоў.

**Тэрміны змен:**
**I. 19.06 – 02.07**
**II. 06.07 – 19.07**
**III. 24.07 – 06.08**
**IV. 10.08 – 23.08**

Прыезд і ад'езд дзяцей у дні распачацця і заканчэння змены павінен арганізаваць пробашч.

*Аб жаданні запісацца ў летні лагер належыць паведаміць у "Карытас" да 10 чэрвеня па тэл. (8 0152) 75-34-12. Для дзяцей з адной парафіі прадугледжана максімум 5 месцаў.*

## ПАРАФІЯ Ў КАРОБЧЫЦАХ АРГАНІЗУЕ ПІЛІГРЫМКУ Ў ПОЛЬШЧУ

**Праграма аўтобуснай пілігрымкі прадугледжвае наведванне вядомых святынь і гарадскія экскурсіі.**

**Маршрут**
Гродна – Кракаў – Вялічка – Кальварыя Зэбжыдоўска – Чанстахова – Гродна

**Тэрмін пілігрымкі**
29 чэрвеня – 2 ліпеня

*Дадатковая інфармацыя*
*(8 0152) 67-47-24, (8 029) 583-07-02, (8 029) 887-10-24*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**24 красавіка 1991 г.** – кс. Аляксандр Цярэшка, *проб. Воўпа;*
**24 красавіка 1992 г.** – кс. Ян Мяноўскі, *проб. Рагозніца;*
**24 красавіка 2005 г.** – а. Венантый Вількаш CSsR, *проб. Рэпля;*
**25 красавіка 1984 г.** – кс. Юзаф Мацяеўскі, *проб. Заневічы;*
**28 красавіка 1944 г.** – кс. Ільдэфонс Бобіч, *проб. Іўе;*
**4 мая 1967 г.** – кс. Ян Вінажэндзіс, *проб. Нача;*
**7 мая 1944 г.** – кс. Яраслаў Войдаг, *проб. Ліпнішкі;*
**7 мая 1996 г.** – кс. інфулат Станіслаў Кучынскі, *рэктар ВДС, ген. вік. Гродна.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка **grodnensis.by***

# Ад шчырага сэрца

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Антонію Дзям'янку, Ксяндзу Пробашчу Віталію Цыбульскаму, усім Сёстрам і Ксяндзам, якія працавалі ў нашай парафіі,**

з нагоды Вялікага чацвярга і свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя пажаданні: добрага здароўя на доўгія гады жыцця і шмат сіл. Няхай Езус адорыць патрэбнымі ласкамі, а Маці Божая нястомна мае ў сваёй апецы. Дзякуем Біскупу Аляксандру за скіраванне Ксяндза Віталія ў нашу парафію.

*Удзячныя вернікі з Уселюба*

**Глыбока паважаным Ксяндзам Арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу, Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, а таксама Ксяндзам Віталію Внароўскаму, Альгімантасу Паулікасу, Валерыю Быкоўскаму, Андрэю Лішко, Яну Кузюку, Валерыю Спірыдону і Аляксандру Вараб'ёву**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем усяго найлепшага: Божай любові і людской зычлівасці. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас за ахвярную працу, бласлаўляе кожны дзень паслугі, а Найсвяцейшая Маці спадарожнічае сваёй любоўю і заступніцтвам на працягу ўсяго жыцця.

*З малітвай, вернікі з адэльскай парафіі*

**Паважаным Ксяндзам Біскупу Аляксандру Кашкевічу, Здзіславу Вэдэру, Алегу Каралёву, Юзафу Багдзевічу, Віктару Захарэўскаму, Паўлу Раманоўскаму, Аляксандру Мятліцкаму, Казіміру Мараўскаму, Клерыку Юрыю Пашкаўцу**

з нагоды свят Уваскрасення Пана жадаем шчодрых Божых ласкаў, радасці, сіл, моцнага здароўя, запалу і натхнення, зычлівых людзей побач, апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай Вашыя сэрцы напаўняюцца міласцю, а промні міласэрнасці асвятляюць жыццёвы шлях. Памятаем пра Вас у сваіх малітвах.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Кучынскаму і ўсім Святарам, якія працуюць у гродзенскай катэдры,**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні: радасці, супакою і поспехаў. Няхай уваскрослы Хрыстос вядзе па цудоўнай дарозе паклікання, асвячае сцежкі штодзённага жыцця, напаўняе надзеяй, верай, любоўю і бласлаўленнем. Няхай Святы Дух адорвае ўсімі ласкамі, а Маці Божая дадае сіл, каб крочыць наперад.

*Малітоўная група БМ Кангрэгацкай, Ружанцовае кола МБ Нястомнай Дапамогі і малітоўная група з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважаным Сёстрам Марыі Стасевіч, Ірыне Барцэвіч, Вераніцы Блізнюк, Вераніцы Огар, Дар'і Еўтухоўскай, Мар'яне Алешчык, Аляксандры Арэшка, Філатэі Ціхановіч, Агаце Смольскай і Клары Волчэк**

з нагоды Велікодных свят складаем сардэчныя віншаванні: здароўя на доўгія гады жыцця, плённай працы на Божай ніве. Няхай смутак Вас абмінае, а жыццё плыве ў радасці. Усіх патрэбных ласкаў ад уваскрослага Збаўцы!

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу**

з нагоды Імянін і свят Уваскрасення Пана шчыра жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, усіх ласкаў ад уваскрослага Хрыста, поспехаў у паслузе, апекі святога Заступніка, а таксама Божага бласлаўлення на кожны дзень. Шчасці Божа!

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Грыцко і Ігару Анісімаву**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: усіх ласкаў ад уваскрослага Езуса, добрага здароўя на доўгія гады і шмат сіл на святарскім шляху.

*Парафіяне з касцёла Узвышэння Святога Крыжа з в. Першамайская і капліцы Божай Міласэрнасці ў в. Хадзілоні*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Бразінскаму**

з нагоды Імянін і Велікодных свят жадаем здароўя, шчасця, душэўнага супакою і шчодрых ласкаў ад уваскрослага Езуса. Няхай Маці Божая апекуецца Вамі кожны дзень, а Святы Дух асвячае святарскі шлях.

*Апостальскі рух "Маргарытка" са Смаргоні*

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Урбановічу, Артуру Валчкевічу, Віталію Цыбульскаму, Юрыю Ёдзіку і Аляксандру Вараб'ёву**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, шчасця, доўгіх гадоў жыцця, добрых і чулых людзей навокал. Няхай Бог, які паклікаў Вас да святарства, няспынна адорвае сваімі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці прытуляе да свайго сэрца.

*Апостальскі рух "Маргарытка" са Смаргоні*

**Дарагому Ксяндзу Тадэвушу Крыштопіку**

з нагоды Юбілею, Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: усіх Божых ласкаў, моцнага здароўя на доўгія гады, шмат прыгожых і радасных дзён, супакою ў сэрцы. Няхай уваскрослы Хрыстос асвячае сваёй ласкай Ваш жыццёвы шлях, Маці Божая з любоўю чувае, а Анёл-ахоўнік дапамагае ў цяжкія хвіліны жыцця.

*Вернікі з касцёла Божай Міласэрнасці ў Свіслачы, парафіяне з Квасоўкі*

**Паважаныя Ксяндзы Тадэвуш Крыштопік, Лешэк Дамагала, Люцыян Радомскі, Марэк Занеўскі, Андрэй Лішко і ўсе Святары!**

З нагоды Вялікага чацвярга і свят Уваскрасення Пана складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Усемагутны адорвае Вас усімі ласкамі, а жыццё будзе напоўнена радасцю. Няхай Езус вядзе праз святарскі шлях, які Вы выбралі, Дух Святы ўзмацняе душу і цела, а Найсвяцейшая Маці прытуляе да свайго сэрца ў цяжкія хвіліны жыцця.

*Верныя парафіяне з касцёла Божай Міласэрнасці ў Свіслачы*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Абухоўскаму, Юрыю Павайбу, Юрыю Марціновічу, Юрыю Свіслоцкаму, Сёстрам Эўхарыі, Гарэцці, Юліце, Паўле**

з нагоды Велікодных свят шчыра жадаем моцнага здароўя, радасці, цярплівасці, моцнай веры, шмат сіл, Божага бласлаўлення на кожны дзень. Няхай уваскрослы Езус мае Вас у сваёй апецы, а Найсвяцейшая Маці вядзе па найлепшым шляху да святасці. Аддзяч, Божа, за паслугу ў нашай парафіі, шчырыя малітвы і мудрыя казанні.

*Сям'я Касцюшка*

**Паважаным Ксяндзам Яну Радзюку, Паўлу Урбану, Тадэвушу Крыштопіку, Паўлу Звяжынскаму, а таксама ўсім Ксяндзам, якія працавалі ў нашай парафіі,**

з нагоды Вялікага чацвярга і Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні. Молім Пана, каб кожны з Вас знаходзіў у сваім сэрцы і нястомна пацвярджаў жыццём тое аўтэнтычнае значэнне, якое мае Ваша асабістае пакліканне. Жадаем таксама святасці, якая выражаецца ў стараннасці і самаадданасці, каб у таямніцах святарскага жыцця Хрыстос стаў бачным і чутным, а Вы, па Яго прыкладзе, былі добрымі пастырамі.

*З хрысціянскім прывітаннем, вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Ясевічу і Юрыю Марціновічу**

з нагоды Імянін перасылаем шчырыя віншаванні: моцнага здароўя, нязгаснай веры, настойлівасці ў душпастырскай працы. Няхай кожны дзень жыцця будзе бласлаўлёны, сэрца перапаўняе радасць, шчасце і спакой. Няхай святы Заступнік узносіць Вашы малітвы да Бога, беражэ і выпрошвае ласкі, а Маці Божая апекуецца і дапамагае на дарозе, па якой Вы крочыце за Хрыстом.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Ёдзіку**

з нагоды Дня святара, Велікодных свят і Імянін перасылаем самыя цёплыя і сардэчныя пажаданні: Божых ласкаў на кожны дзень святарскага жыцця, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Маці Божай. Няхай уваскрослы Хрыстос асвеціць Ваш шлях, адорыць сваёй міласэрнасцю. Дзякуем за Божае слова, павучальныя казанні, працу і намаганні ў аднаўленні касцёла і добраўпарадкаванні тэрыторыі вакол яго, за ўсмешку, падтрымку і добрыя адносіны.

*Удзячныя парафіяне з Цудзенішкаў, а таксама сям'я Тарасевіч з Гродна*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Стволу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя, радасці, шматлікіх Божых ласкаў у душпастырскай працы, каб і далей Вы аддана служылі Богу і людзям. Няхай у Вашым сэрцы пануе цішыня, а на твары – усмешка. Радасная Алелюя!

*Вернікі з Цудзенішкаў і парафіяне з Рэплі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Шанчуку**

з нагоды Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай усемагутны Бог адорвае ўсімі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці няспынна Вамі апекуецца. Няхай агонь веры, надзеі і любові ніколі не пагасне ў сэрцы, а дарога да Неба, па якой Вы нас вядзеце, будзе ўсцелена самымі прыгожымі кветкамі.

*Парафіяне з Гожы*

**Паважаным Айцам Антонію Пажэцкаму і Паўлу Раманчуку**

з нагоды Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Езус адорвае Вас добрым здароўем, запалам і стойкасцю ў абвяшчэнні Божага слова і навяртанні людзей да Бога. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды Вамі апекуецца, а вакол будуць толькі добразычлівыя людзі.

*Рыцарства Беззаганнай, адарацыйнае кола*

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Павайбу, Юрыю Марціновічу і Юрыю Свіслоцкаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: шмат здароўя, Божага бласлаўлення, радасці, аптымізму, дароў Святога Духа і моцнай веры. Няхай Езус, які аддаў сваё жыццё на крыжы, дапамагае Вам ва ўсіх справах.

*Францішканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Паважанаму Айцу Юрыю Саковічу**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін жадаем усіх Божых ласкаў: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці, сілы ў цяжкасцях штодзённага жыцця і ў здзяйсненні святарскай паслугі, добрага плёну на Божай ніве, няспыннай апекі Найсвяцейшай Маці і дароў Святога Духа.

*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Карэлічаў і Варончы*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Федуку**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: шчодрага плёну ў душпастырскай працы, цярплівасці, мудрасці і мужнасці. Няхай Ваш нябесны заступнік дапамагае ва ўсіх справах, а Маці Божая беражэ ад усякага зла.

*Удзячныя парафіяне і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Ражанкі*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Жэгарыну**

з нагоды Велікодных свят і Імянін прагнем скласці сардэчныя пажаданні. Няхай Бог нястомна ўдзяляе Вам свае ласкі і бласлаўленне, а Найсвяцейшая Панна Марыя атуляе плашчом мацярынскай апекі. Жадаем таксама шчодрых дароў Святога Духа, радасці, супакою, сардэчных і шчырых людзей побач.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам, Касцёльны камітэт і парафіяне з Навагрудка*

**Паважанаму Айцу Віталію Бандаронку**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, доўгіх і шчаслівых гадоў жыцця, сіл, стойкасці і цярплівасці ў душпастырскай працы, Божай дапамогі і апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Слоніма*

**Паважанаму Ксяндзу Мар'яну Хаменю**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, душэўнага супакою і шмат радасці. Няхай уваскрослы Хрыстос напаўняе Вас усімі дарамі і адорвае бласлаўленнем на кожны дзень душпастырскай паслугі.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Шылавічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку**

з нагоды Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, шчасця і радасці, поспехаў у душпастырскай паслузе, сілы для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай людзі, якіх сустракаеце на святарскім шляху, адорваюць Вас дабрынёй і зычлівасцю, Бог усемагутны спасылае шчодрыя дары, а Найсвяцейшая Маці ахінае моцнай любоўю і апекай, выпрошваючы ў Сына неабходныя ласкі. Моцнага здароўя Вашым бацькам!

*Удзячныя парафіяне з касцёла св. Андрэя Баболі, Казловічы*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю**

з нагоды 25-годдзя святарскіх пасвячэнняў і Велікодных свят складаем самыя сардэчныя пажаданні: добрага здароўя, душэўнага супакою, стойкасці ў святарскай паслузе і толькі зычлівых людзей побач. Няхай добры Бог Вас бласлаўляе, а Найсвяцейшая Маці апекуецца і дадае запалу да працы. Доўгіх, радасных і шчаслівых душпастырскіх гадоў!

*З павагай, знаёмыя сем'і з Каменкі, парафіяне з в. Скярсі*

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем шмат Божых ласкаў, сілы ў абвяшчэнні Божага слова, няспыннай апекі Маці Божай, шмат здароўя і радасці на кожны дзень жыцця. Шчасці Божа!

*Сям'я Заяц*

**Паважаным Ксяндзам Міхалу Ластоўскаму і Артуру Малафею**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус заўсёды Вас бласлаўляе, будзе крыніцай радасці. Няхай Божы Дух жыве ў Вашых сэрцах і ніколі не дазволіць забыцца пра тое, што ў святарскім жыцці самае важнае. Шчыра дзякуем за адкрытыя сэрцы, любоў, якою дзеліцеся з намі, апеку, мудрыя парады.

*Парафіяне з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**

з нагоды Велікодных свят перасылаем найлепшыя пажаданні: сілы і моцы Святога Духа ў абвяшчэнні Добрай Навіны, непахіснай веры, здароўя, радасці і сталай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Дзякуем за тое, што ахвяруеце для нас свой час. Цешымся, што ведаем Вас.

*Моладзь з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважаныя Айцы Пробашч Вітольд Пяцельчыц, Аляксандр Махнач, Віталій Сярко, Ян Асіповіч, Віталій Слука!**

З нагоды Дня святара і Велікодных свят дасылаем словы сардэчных віншаванняў і ўдзячнасці. Няхай паслуга на Божай ніве прыносіць задавальненне і шчодры плён, здароўе будзе моцным і заўсёды спадарожнічае шматграннасць духоўнага свету. Дзякуем Богу за кожны дзень, калі праз Вашы рукі здзяйсняецца бяскроўны дар адкуплення, за тое, што корміце нас Божым Целам і словам. Няхай уваскрослы Езус узнагародзіць за ўсе малітвы, мудрыя казанні, прыклад набожнасці і дабрыні.

*Вернікі, Біблійнае кола і Ружанцовае кола св. Максімільяна з парафіі св. Тэрэзы Авільскай са Шчучына*

**Паважаным Айцам Пробашчу Вальдэмару Слоту і Андрэю Ядкоўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, Божай міласэрнасці, стойкасці ў працы і таго, чаго патрабуюць Вашыя сэрцы. Няхай Маці Божая заўсёды ахінае Вас сваім плашчом, а ўваскрослы Хрыстос адорвае сваім бласлаўленнем.

*Вернікі і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з парафіі Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яўгену Учкуронісу**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, у сэрцы заўсёды жывуць супакой, любоў і дабрыня, а нястомная энергія спадарожнічае Вам, прыносячы бясконцую радасць ад плёну святарскай працы. Шчыра дзякуем за распалены агонь веры, мудрыя і павучальныя казанні, душпастырскія адведзіны нашых сем'яў, мілую ўсмешку, добрае сэрца і любоў да ўсіх нас.

*Парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Луконіцы, вернікі з в. Старое Сяло*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Юзафу Багдзевічу, Юрыю Ясевічу і нашым дарагім Сёстрам**

з нагоды Вялікага чацвярга і Велікодных свят жадаем бласлаўлення ад уваскрослага Езуса, моцы Святога Духа, апекі Маці Божай, шмат радасці, моцнага здароўя і душэўнага супакою на кожны дзень. Дзякуем за любоў, клопат аб парафіянах і святыні, цудоўны плён душпастырскай паслугі.

*З павагай, парафіяне з касцёла свсв. Космы і Дам'яна, Астравец*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана ад шчырага сэрца жадаем шмат здароўя, доўгіх і шчаслівых гадоў жыцця, Божага бласлаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці, дапамогі Святога Духа. Няхай уваскрослы Хрыстос адорыць Вас сваімі ласкамі, мудрасцю, любоўю. Нізкі паклон за нястомную працу, духоўную апеку, малітву і дабрыню. Дзякуем Вашай маме за сына святара.

*З павагай, парафіяне з вёсак Трабы і Малінавая*

**Каханым Сёстрам Ганне і Агнешцы, а таксама Кансэкраваным Удовам**

з нагоды Велікодных свят перасылаем шчырыя пажаданні. Няхай уваскрослы Езус адорыць Вас бласлаўленнем, неабходнымі ласкамі і супакоем. Жадаем шмат радасных і цёплых хвілін у жыцці.

*З малітвай, удзячныя парафіяне з касцёла Нараджэння НПМ у Трабах*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем Божай любові, неабходных ласкаў ад уваскрослага Езуса, дароў Святога Духа, сталай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, здароўя, моцнай веры, стойкасці ў пакліканні. Няхай Ваша жыццё будзе напоўнена радасцю, дабрынёй і зычлівасцю людзей.

*З малітвай, вернікі з в. Малінавая*

**Паважаным Айцу Пробашчу Юрыю Саковічу і Дыякану Ануфрыю Альховіку**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем здароўя, сіл, Божага бласлаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці, шчодрых дароў Святога Духа. Няхай уваскрослы Хрыстос адорыць Вас сваімі ласкамі, любоўю, супакоем. Дзякуем за шчырую малітву, добрае сэрца, клопат аб парафіянах і святыні.

*З малітвай і ўдзячнасцю, парафіяне з Карэлічаў і Варончы*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Несцеру**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, душэўнага супакою, радасці і нязгаснага запалу ў сэрцы. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, разуменне, дабрыню, а таксама руплівую працу ў нашай капліцы.

*Вернікі з капліцы Сураж*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Калесніку**

з нагоды Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: шмат Божых ласкаў, моцнага здароўя на доўгія гады. Няхай Езус, якога Вы кожны дзень трымаеце ў сваіх далонях, бласлаўляе на дарозе святарства, а Маці Божая абараняе мацярынскай любоўю і ахінае сваёй апекай.

*Парафіяне з касцёла Найсвяцейшай Тройцы, в. Андрэеўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Гардзейчыку**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем Божага бласлаўлення на кожны дзень жыцця, апекі Найсвяцейшай Маці, шчодрых дароў Святога Духа. Дзякуем за павучальныя казанні, ахвярную душпастырскую працу ў парафіі і адкрытасць на кожнага чалавека. Няхай уваскрослы Езус дапамагае Вам у рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, а побач будуць толькі добрыя і зычлівыя людзі.

*Вернікі з парафіі Нараджэння НПМ, Кямелішкі*

працяг на с. 8

